УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД: МЯСЦОВЫЯ МЕРКАВАНЬНІ

# Ці спыніць грамадзтва пагрозу нябытнасьці

*Два тыдні таму нашае прыціхлае грамадзкае жыцьцё (якое поўнасьцю саступіла месца актуальнай палітычнай актыўнасьці з нагоды маючых адбыцца ўвосень выбараў) абудзілася ініцыятывай групы інтэлігэнцыі па правядзеньню Усебеларускага зьезда. "Мы апынуліся на гістарычнай мяжы, за якой нацыянальная нябытнасьць" – гаворыцца ў Звароце, які падпісаны Радзімам Гарэцкім і Уладзімерам Арловым, Віктарам Скарабагатавым і Стэфаніяй Станютай, Генадзем Бураўкіным і Алесем Разанавым... Зьберагчы беларускую незалежнасьць – вось адзіная мэта і адзіная задача мяркуемага зьезда.*

*Рэдакцыя "ТМ" зьвярнулася да некаторых прадстаўнікоў інтэлігэнцыі нашага рэгіёну з просьбай выказаць свае адносіны да згаданай ініцыятывы. Вось што сказалі:*

**Аляксандар Агееў, выкладчык магілёўскага Унівэрсытэта:**

– Як можна не падтрымаць такую ініцыятыву, калі сапраўды перад краінай рэальна паўстала пытаньне аб яе незалежнасьці. Захады наконт інтэграцыі, якімі гародзіцца ўлада ад грамадзтва, ня могуць нікога падмануць. Тое, што задумана беларускай і расейскай адміністрацыямі і тое, што зьдзяйсьняецца ў гэтым кірунку, небясьпечна для нашага сувэрэнітэту. Зьвярніце ўвагу: якія розныя, якія далёкія ад злабадзёнай палітыцы людзі падпісалі Зварот: акторы, музыкі, навукоўцы, літаратары. Ім ня трэба ўлады, яны апануюць не да яе, а да нас з вамі – грамадзянаў краіны, незалежна ад палітычных поглядаў, нацыянальнасьцяў, узростаў і жыцьцёвага досьведу. Хочацца падтрымаць ініцыятараў Зьезда ў іхнай веры ў тое, што самай надзейнай і трывалай формай грамадзкага зьяднаньня можа стаць захаваньне і разьвіцьцё незалежнасьці краіны.

**Ігар Шары, супрацоўнік амэрыканскай арганізацыі "Counterpart":**

– Апошнім часам з болем бачу, як сыходзяць з нашага пабытовага жыцьця прыстойнасьць і маральнасьць. А на чым ім грунтавацца? Многае добрае ў нас можа адрадзіцца і вярнуцца толькі на грунце незалежнасьці краіны, самадастатковасьці яе як дзяржаўнай і сацыяльнай структуры. Зь некаторага часу адчуваю расчараваньне апазыцыйнымі палітыкамі, можа асабліва – найбольш радыкальнымі. Не хачу нікога крыўдзіць, але ў гарачцы злабадзённасьці шмат ад якіх апазыцыянэраў нічога акрамя лёзунгаў ня чутна. Людзі культуры і мастацтва, навукі і творчасьці, якія сабраліся пад ідэяй Усебеларускага зьезду, грамадзкім даверам валодаюць. Застаецца толькі спадзявацца на тое, што Бог зьберажэ гэтае мерапрыемства для ягонай выніковасьці ўсім нам на карысьць.

**Алесь Буракоў, намесьнік старшыні Беларускага моладзевага хрысьціянска-сацыяльнага саюза:**

– Уся справа ў тым, якія вынікі дасьць гэты зьезд. Калі ўсё скончыцца яшчэ адной "правільнай" гаворкай на тэмы, якія сто разоў гучалі, але так і не закранулі душы, розум і пачуцьці грамадзтва, ня варта і пачынаць. Каб такі зьезд наладжвалі нашы апазыцыйныя палітыкі, на гэтым меркаваньні я б і спыніўся. Але вабіць і цешыць тое, што сярод ініцыятараў "чыстых палітыкаў" няма. Няхай яны далучацца потым да самога мерапрыемства, атрымаюць на ім слова. Але фармаваць зьезд, дыктаваць правілы ягонага правядзеньня павінны ініцыятары, магчыма менш спрактыкаваныя ў пратакольных справах, затое валодаючыя ў сваім грамадзтве і ў сьвеце бясспрэчным маральным аўтарытэтам. Такому зьезду можна толькі шчыра пажадаць посьпеху.

**P.S.** На гэты дзень заканчваецца фармаваньне Арганізацыйнага камітэта па скліканьні Усебеларускага зьезда. Мяркуецца, што пройдзе ён у Менску напачатку траўня пры ўдзеле блізу 1000 дэлегатаў, якія будуць прадстаўляць сабой усе асноўныя структуры грамадзтва і дыяспару. Увайсьці ў склад Аргкамітэту прапанавана гісторыку Радзіму Гарэцкаму, пісьменьнікам Уладзімеру Арлову і Сьвятлане Алексіевіч, рэжысэру Юрыю Хашчавацкаму, паэту Генадзю Бураўкіну, перакладчыку Карласу Шэрману, археолягу Алегу Трусаву. Ганаровым старшынём зьезда прапануецца Васіль Быкаў... Але часу да зьезда яшчэ шмат, многае можа атрымацца ня так, як мяркуецца. Пакуль не праявілася беларускае замежжа. Не сказала свайго слова афіцыйная ўлада, хаця ўсім зразумела, што абмінуць увагай такую ініцыятыву ёй ніяк ня ўдасца. Не абмінуць бы сваёй увагай гэты зьезд і нашаму грамадзтву, што насамрэч у шмат разоў важней.

СУДОВЫЯ ВЕСТКІ

# Права на перамогу мае толькі праўда

Суд на Дзьмітрыем Абадоўскім (ранейшыя падрабязнасьці ў №№6,7) застаецца пад увагай магілёўскай дэмакратычнай грамадзкасьці. Працяг працэсу на гэтым тыдні быў адзначаны праваабаронцамі пікетам перад уваходам у будынак, дзе месьціцца Цэнтральны суд, які пад старшынствам Андрэя Юрчанкі разглядае пазначаную справу. Пікетчыкі празь вялікага памеру папяровыя мэдалі на грудзях дзякавалі судзьдзю (зразумела, гіранічна) за ягоную адданасьць закону. Сам "ваша честь" гіронію добра зразумеў, бо паседжаньне суда было пачатае з вымовы Сяргею Абадоўскаму, дапушчанаму на зачынены працэс у якасьці грамадзкага абаронцы падсуднага, свайго сына. На гэтым пратэстны эпізод скончыўся.

Не выпадае думаць, што менавіта ён аказаў узьдзеяньне на Андрэя Юрчанку, але аўторкавае паседжаньне скончылася рашэньнем выклікаць у суд сьледчых і (паўторна) памочніка раённага пракурора, з чым раней судзьдзя не пагаджаўся. Былі таксама агалошаныя працэсуальныя дакумэнты па справе і А.Юрчанка ўважліва выслухаў па іх усе заўвагі і пярэчаньні адвакатаў.

Разгляд справы прадоўжыцца сёньня. Абарона Д.Абадоўскага назапасіла да гэтага дня шмат якія сьведчаньні таго, што сьледчыя і раённая пракуратура правялі сваю "працу" далёка ня ўзорна і не пераканаўча. На меркаваньне абароны і незалежных наглядальнікаў, судзьдзя цяпер схіляецца ня так адназначна ў бок абвінавачваньня, як гэта было напачатку працэса. Аднак жа хуткага сканчэньня суду не чакаецца, бо пракуратура стаіць на сваім: Дзьмітры Абадоўскі павінен адказаць за згвалтаваньне і два крадзяжы. Вось толькі зь відавочнасьцю доказаў справядлівасьці гэтага абвінавачваньня пасьля 2-х тыднёвага судовага слуханьня ня стала прасьцей і ясьней.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па праблемах правоў чалавека***



Судья Юрченко — это высокая неподкупная честь.



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

З Асіповічаў паведамілі, што пракуратура дасьледуе "армейскую вэрсію" прычыны самагубнай сьмерці 20-гадовага салдата Унутраных войскаў, якая ўскалыхнула раён і вобласьць. За некалькі хвілінаў да менскага цягніка, якім салдат мусіў быў вярнуцца ў падразьдзяленьне, ён, разьвітаўшыся з бацькамі, пайшоў не на цягнік, а ў пятлю... Тое, што прычынай самагубства зьяўляецца Армія, зь нейкай жудаснай упэўненасьцю загаварылі ў райцэнтры адразу. Як бачым, гэтую ж вэрсію лічыць за найбольш "прадукцыйную" і афіцыйнае сьледства.

Падаражэла таксоўка. Паведамленьнем, якое пачынаецца словам "падаражэла", нікога сёньня ня зьдзівіш. Ды й хто ў нас стала ці больш-менш рэгулярна карыстаецца гэтай паслугай?! Аднак аб тым і гаворка, што зручная, камфортная паслуга канчаткова пераходзіць у разрад недасягальных для звычайнага чалавека (ледзь не сказаў: савецкага чалавека) дабротаў. Між іншым, як ні гавары, а такім яно ёсьць насамрэч. Памятаеце знакамітае: Советские люди в булочную на такси не ездят!

Аблвыканкам стварыў штаб (!) па правядзеньні вясновай пасяўной кампаніі. Ён будзе праводзіць паседжаньні (вядома, баявыя) штосуботу. Лёгка прадказаць, што гэта будзе: нэрвы, апраўданьні, марнаваньне сродкаў, пагрозы і пакараньні. Хаця чаму будзе, калі ўсё гэта было. Загадзя можна прадказаць і вынікі: што пасеецца, тое і пасеецца, што вырасьце, тое і вырасьце. Адно незразумела: пры чым тут нейкі штаб?

Штогод служба занятасьці насельніцтва праводзіць "тыдні перасяленьня ў вёску". Зьехаць з гораду прапануецца беспрацоўным. Ім даюцца невялічкія грошы ў параўнаньні з тымі, якія патрэбныя на такі переезд – і бывайце! Летась 10 сем'яў пагадзіліся пераехаць на вёску, але як ім там жывецца – невядома, бо служба занятасьці кантралюе толькі першую фазу перасяленьня. Можа хто патэлефануе мне з тых, хто рызыкнуў зьмяніць адрас?

Магілёўцы, што жывуць у так званым "прыватным сэктары", могуць не баяцца самай халоднай вясны. Як паведаміў загадчык аддзела аблвыканкаму па энэргетыцы Мікалай Кавалёў, для іхных патрэбаў назапашана дастаткова торфабрыкету. Толькі вось "закавыка": за частку брыкету горад яшчэ не заплаціў, бо грошай няма. Таму паліва грамадзяне набыць ня змогуць... У чым радасьць "чынавецкага рапарту", асабіста я не зразумеў.

На апошнім (па часе) паседжаньні аблвыканкаму Міхаіл Дражын раздражнёна зьвярнуў увагу падначаленых на тое, што на вёсцы шмат крадуць. Падначаленым нават паказалі дакумэнтальную відэастужку, на якой бачна, як неахайна захоўваецца калгасная маёмасьць, як дрэнна яе пільнуюць. Супраць кіно не папрэш. Аднак, на маю думку, не пашкодзіла б начальству пагаварыць і аб тым, што крадуць вяскоўцы ня толькі таму, што "дрэнна ляжыць", а і таму (найперш, мне здаецца), што дрэнна жывуць.

А вось нарэшце прыемная навіна. Магілёўскі гарвыканкам зацьвердзіў праграму аднаўленьня фірмовага гандлю. Зусім нядаўна гэты зручны для спажыўцоў сэктар быў даволі нядрэнна разьвіты. Аднак сацыяльна-эканамічная сытуацыя, утвораная ўладамі ў адказ на заклік свайго правадыра "давіць вшывых блох", практычна зьнішчыла фірмовы гандаль. Як быццам спахапіліся, бо сёлета мяркуецца давесьці колькасьць адпаведных крамаў у абласным цэнтры да 18-ці. Памагай Бог! Толькі вось пытаньне аб тым, навошта было праводзіць руйнаваньне карыснай справы, застаецца. А без адказу на яго якія могуць быць гарантыі, што цяпер робіцца "усур'ёз і надоўга".

З Клімавічаў прыйшла вестка пра адмену гандлёвых талонаў на прыватнае набыцьцё мяса і сьметанковага масла. Цяжка паверыць у тое, што значна падвысілася прадукцыйнасьць гаспадарак і адпаведных прадпрыемстваў. Ды і людзі называюць іншую прычыну: дэфыцыт гэтых прадуктаў цяпер надзейна перакрываецца іх коштам, недасягальным для многіх жыхароў зьбяднелай усходняй часткі нашай вобласьці.

*Да сустрэчы. Тэлефануйце, заходзьце!*

# Маладыя магілёўцы асудзілі расейскую вайну супраць Чачэніі

Як паведамляў "ТМ", у мінулую пятніцу магілёўскія маладафронтаўцы зарганізавалі ды правялі "круглы стол-дыспут" на тэму "Вайна ў Чачэніі". Былі заслуханыя даклады, датычныя гісторыі чачэнскага народу, яго змаганьня супраць расейскага панаваньня на працягу апошніх двух стагодзьдзяў. Асабліва дэталёва разглядаліся падзеі апошняй расейскай "чачэнскай кампаніі", пераможнае заканчэньне якой афіцыйна было абвешчанае расейскімі генэраламі напрыканцы лютага. Аднак, як вядома, вайсковыя аддзелы Чачэніі не скарыліся, а найбольш працягвае пакутваць ад вайны цывільнае насельніцтва краю.

Пасьля выступу асноўных дакладчыкаў распачалася дыскусія, у якой актыўна бралі ўдзел усе прысутныя. Акрамя маладафронтаўцаў гэта былі прадстаўнікі праваабарончага цэнтру "Вясна", моладзевага Хрысьціянска-Сацыяльнага Саюзу, выкладчыкі магілёўскіх ВНУ і школаў. Асобнай тэмай прагучала значэньне вайны з Чачэніяй для Беларусі як бліжэйшага на сёньня партнэра Расеі. Таму асабліва шкада, што ўдзелу ў дыскусіі пазьбеглі прадстаўнікі БПСМ, якія не прынялі запрашэньня да гаворкі.

У выніку "круглага стала" маладыя магілёўцы падтрымалі імкненьне чачэнскага народу да незалежнасьці ды асудзілі агрэсію расейцаў на Каўказе.

***Андрусь КАВАЛЁЎ, старшыня магілёўскага МФ***

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ




"РАСЕЯ ЯК МІТАТВОРЦА" ("ТМ" №№7-8)

# Неабходная ўмова

Шаноўная рэдакцыя!

Адгукаюся на артыкул ***М.Булавацкага*** "Расея як мітатворца". Што тычыцца самога артыкула, дык ён вельмі інтэлігентны і ўзважаны. Можа, задужа рамантычны. Як мне падаецца, ніводзін народ імпэрыі сёньня (акрамя чачэнскага) ня рушыцца ў бок дзяржаўнага самавызначэньня. Магчыма, чакаюць людзі, калі ж Расея сама разваліцца. Але пры якіх умовах гэта можа адбыцца – пытаньне. Пакуль у сьвеце на вышэйшым прадстаўнічым узроўні (маю на ўвазе ААН) ніяк ня вырашаныя балючыя праблемы суадносінаў "тэрытарыяльнае цэласнасьці" і права народаў на самавызначэньне. Пакуль цывілізаваныя дзяржавы дазваляюць Расеі рабіць што заўгодна, уключна з генацыдам. Узяць хаця б стаўленьне Рады Эўропы. Масква дэманструе поўную адсутнасьць якіх бы там ні было намаганьняў адпавядаць патрабаваньням сябра гэтай арганізацыі. Выключэньне РФ з РЭ – гэта простая канстатацыя фактаў, повадаў для гэтага – вышэй галавы. І што ж робіць Эўропа? Выдумвае – сама! – прычыны, паводле якіх з гэтым выключэньнем трэба пачакаць... А дзе ж закон, здаровы сэнс?

Хацеў бы, аднак, вернуцца да артыкулу. Па-мойму, найлепшыя прыклады поўнай непрытомнасьці Расеі – ў яе стаўленьні да СССР. Скажам, калі вядомых актораў, музыкаў і г.д. прадстаўляюць як "народны артыст СССР" і тыя лічаць гэта за гонар, я такога гонару не разумею. А як ставіцца нармальнаму чалавеку, калі ў тэлевізіі йдзе рэкляма кандытарскай фабрыкі "Бальшавік", якая насамрэч заснаваная ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя? Уявіце сабе, што ў Нямеччыне ў 1955 годзе знакамітага актора прадстаўляюць як "народнага артыста Трэцяга Рэйху" ці рэклямуюць шакаляд "Нацыст", які, аказваецца, выпускаецца ўжо больш за сто гадоў? Уявіць немагчыма. А тут – калі ласка, і ўсё праходзіць. Вядома, што не адбылося свайго "Нюрнбэргу". Але ж і безь яго можна было б нешта паспрабаваць зрабіць. Не зрабілі.

Таму мая апінія такая: пакуль міжнародная супольнасьць дае Маскве карт-бляншь на любую агрэсію, іншыя народы, апроч чачэнскага, волі не здабудуць. Сюды ж можна аднесьці й нас з вамі. Колькасьць людзей, якія разумеюць, што трэба жыць годна й вольна ў сваёй эўрапейскай краіне Беларусі, замалая для "бархатнае рэвалюцыі". Аднак колькасьць і якасьць г.зв. "апазыцыі" зусім рэальная для таго, каб распачаць нармалёвы дэмакратычны працэс. Але ж зноў-такі: свабодных выбараў няма, а калі б і былі – я ўпэўнены, што выбралі б у асноўным усё тую ж савецкую намэнклятуру. Бо побач – нерухомая Масква, а галоўнае – масква ў собскіх галовах.

Таму, падсумоўваючы ўсё вышэй сказанае, сьведчу: толькі пры ўмове пасьлядоўнага выкананьня дэмакратычнымі краінамі сьвету сваіх жа нормаў паводзінаў у дачыненьні да Расеі магчымы ціск на яе й адпаведна – зьмены ў ёй. (Усялякія Шойгу тут ні пры чым). Толькі новая праграма ўзаемадачыненьняў на ўзроўні ААН, якая дапускала б скасаваньне "тэрытарыяльнае цэласнасьці" у выпадках накшталт чачэнскага – можа адкрыць паняволеным народам шлях да свабоды. Калі ж працягнецца сёньняшняя практыка ЗША і Эўропы ў адносінах да Масквы – выказваньні "занепакоенасьці" і просьбаў аб "выконваньні узятых на сябе абавязацельстваў" безь ніякіх дзеяньняў – імпэрыя праіснуе яшчэ 100 гадоў.

***З павагай, БЕЛАРУСКІ СТУДЭНТ савецкай ВНУ (прозьвішча не падаю, хачу давучыцца)***

"АКЦЫЯ МОВА-2000" ("ТМ" №8)

# Гэта толькі здаецца, што інакш нельга альбо ня трэба

Хацелася б працягнуць тэму, што закрануў у газэце спадар ***Аляксей Александровіч*** артыкулам аб мове. Тэма, натуральна, надзённая. Бо, як ня дзіўна, беларускае грамадзтва нягледзячы на апошнія выпускі CD, відэа па-беларуску, ілюстраваных кнігаў для дзетак і інш. усё яшчэ ня здольнае цалкам забясьпечыць сябе "беларускамоўным" духоўным і адукацыйным прадуктам.

У гэтым шэрагу знаходзіцца й такое прыстасаваньне, як кампутар. Сёньня ён даволі трывала ўвайшоў у нашае жыцьцё. Але, на жаль, выключна ў ангельскім ды расейскім моўных варыянтах. Варта тут прыгадаць захады, напрыклад, французаў аб ратаваньні сваёй мовы ад замежнага уплыву, калі было вырашана поўнасьцю перавесьці ўвесь кампутарны "слэнг" на родную мову. А агульнанацыянальныя конкурсы ў Эстоніі, дзе талакою выдумлялі свой аналяг назову кампутара!

Нам да гэтага далёка. На дзяржаўным узроўні. Але беларускае грамадзтва ўжо шмат якімі праектамі засьведчыла здольнасьць працаваць збольшага аўтаномна. Дык ці не паспрабаваць нам самім зрабіць кампутар беларускім?

Калі так, дык далучайцеся! Шаноўная "Наша Ніва" ужо абвесьціла аб пачатку нечага падобнага, але Менск – далёка й таму хацелася б пачуць меркаваньні магілёўцаў па гэтай праблеме. Калі ёсьць жаданьне, дык дасылайце свае прапановы, як будзем называць Windows, Word, Excel, Acces ды інш. Ці варта карыстацца словамі "файл" ды "кампутар"? Ці магчыма перазапісаць у праграмах каманды, падказкі і г.д. па-беларуску, якія пры гэтым ужыць фармулёўкі?..

Дасылайце, калі ласка, свае прапановы на адрэсу: ***а/с 25, Магілёў-30.*** А мабыць, некаму ёсьць што сказаць і больш прынцыповае?..

***Андрусь М.***

МОЎНЫЯ СПРЭЧКІ

# Дык Магілёў ці Магілеў?

Беларускі нацыянальны друк ды нават хто-ніхто з паважаных магілёўцаў-незалежнікаў зрэдчас нясьведама выкарыстоўваюць спалянізаваны назоў нашага места, што гучыць наступным чынам – Магілеў.

Але ж, спадарства! Гэта ж проста ненатуральна! Як можна? Навошта ўпарта трымацца за польскі назоў, калі ёсьць пракаветны беларускі назоў – Магілёў.

Вінцук Вячорка, які ня толькі палітык, але й выдатны мовазнаўца, пісаў некалі на гэты конт: "Магілёў славуты больш сваёю сярэднявечнаю спадчынай... Ужываная часьцяком форма Магілеў няслушная, бо паходзіць з польскае мовы – Mohylew. Праўда, у ваколіцах кажуць па-рознаму (Мугілёў, Мугылеў, Мугулёў, Магілеў, Магылеў, Магілёў і г.д.), аднак у літаратурнай мове здаўна ўсталяваная форма Магілёў".

Назоў нашага места вельмі старажытны, ён фіксуецца ў летапісах з XIV ст. (першы Наўгародзкі летапіс) у такім самым напісаньні, як сёньня – *Магілёў*. Як вядома, незадоўга да гэтага, у XIII-м ст. узьнікла й нашая старабеларуская мова... Я цудоўна разумею нашых "магілеўцаў" (так званых "адраджэнцаў новае хвалі"). Яны хочуць як надалей адыйсьці ад расейскае мовы, шукаюць больш беларускую форму слова ці хаця б адрозную ад афіцыйнае ("расейска-савецкае") нормы. Яны ўвесь час у пошуках нашых незамутнёных вытокаў. Гэта файна, але ў працэсе пошуку шмат хто пераходзіць з аднае скрайнасьці ў другую. У выніку грамадзтву навязваецца спалянізаваны назоў горада.

Але мы памятаем, дзе жывем! Дык хай жа жыве места на Дняпры – наш родны Магілёў!

***Віталь БУГАЁЎ***

## БЕЛАПАН для «ТМ»

**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла зьвярнулася да беларускага народа з адкрытым лістом. Яна заклікае шырока адзначыць 25 сакавіка – Дзень Волі.**

Івонка Сурвіла падкрэсьлівае, што напісаць адкрыты ліст яе прымусіла трывога за будучыню нацыі. Дзень Волі, адзначаецца ў лісьце, гэта "найвялікшае нашае нацыянальнае сьвята – нашае сьвята годнасьці, бо ж у гэты дзень народ наш абвесьціў сьвету, пасьля доўгай няволі, што ён таксама хоча жыць вольным і незалежным".

Аднак сёньня, лічыць старшыня Рады БНР, наш край знаходзіцца зноў у вялікай небясьпецы. Пры дапамозе хлусьні і паліцэйскай сілы беларусаў зноў намагаюцца паставіць на службу "стратэгічным інтарэсам" расейскай імпэрыі. "Але адзіным вынікам гэтае прадажнае палітыкі будзе Вашае зьбядненьне, ды ў канцы зьнішчэньне Вас як нацыі, як народу", – гаворыцца ў адкрытым лісьце.

Рада БНР, адзначае яе старшыня, "робіць усё, што можа, каб памагчы Беларусі перажыць цяперашні крызыс ды выйсьці зь яго незалежнай, свабоднай і заможнай краінай. Але бяз Вашага ўдзелу мы ня выратуем Бацькаўшчыны. Трэба, каб і Вы паказалі сьвету, што Вы ведаеце вартасьць волі, што ня хочаце быць прыладай маскоўскага імпэрыялізму й праліваць за яго сваю кроў". Івонка Сурвіла заклікае жыхароў Беларусі ў Дзень Волі 25 сакавіка выйсьці сотнямі тысячаў на вуліцы, жадае мужнасьці і трываласьці.

●

**У 2000 годзе жыхароў Беларусі стане меней за 10 мільёнаў. Натуральны спад насельніцтва назіраецца ў краіне з 1994 года. За апошнія шэсьць гадоў колькасьць жыхароў скарацілася прыкладна на 300 тысяч.**

Гэта першае вядомае за ўсю гісторыю Беларусі такое працяглае зьніжэньне колькасьці насельніцтва ў выніку натуральнага спаду. Асноўныя прычыны – рост сьмяротнасьці і спад нараджальнасьці. Так, калі ў 1990 годзе каэфіцэнт нараджальнасьці на 1000 жыхароў складаў каля 14 чалавек, то ў 1999-м – 9,3; каэфіцэнт сьмяротнасьці – адпаведна 10,7 і 14,1.

Раней колькасьць жыхароў краіны зьмяншалася пераважна ў выніку эпідэміяў (напрыклад, чумы ў 1563-66 гадах) і войнаў. Так, у вайне 1654-1667 гадоў паміж Рэччу Паспалітай, у склад якой уваходзіла Вялікае Княства Літоўскае, і Маскоўскай дзяржавай загінула 53% насельніцтва Беларусі. Паўночная вайна 1700-1721 гадоў адабрала жыцьці яшчэ трэці жыхароў краю. Падчас першай сусьветнай вайны былі забітыя і памерлі 1 мільён 200 тысяч беларусаў. Сур'ёзныя страты панесла рэспубліка і ў сталінскі пэрыяд. Так, калі ў 1927-1932 гадах колькасьць жыхароў павялічылася на 720 тысяч, то за 1933-1938 гады – толькі на 220 тысяч. У выніку Другой сусьветнай вайны загінулі каля трох мільёнаў беларусаў і адзін мільён сталі ўцекачамі.

З 1994 года колькасьць жыхароў краіны штогод зьмяншаецца на 20-40 тысяч. За 1999 год натуральнае зьмяншэньне насельніцтва Беларусі склала 31,1 тысячы чалавек. Калі такія тэмпы захаваюцца і сёлета, то, паводле прагнозу БЕЛАПАН, да 2001 года беларусаў застанецца прыкладна 9 мільёнаў 990 тысяч чалавек.

●

**Свабодны прафсаюз Беларускі зьвярнуўся да ўсіх грамадзкіх арганізацыяў краіны з просьбай падтрымаць рабочых І.Бугрова і А.Яўгенава, звольненых з нашага аўтамабільнага завода.**

У звароце падкрэсьліваецца, што прычынай звальненьня стала іх прафсаюзная дзейнасьць: першы ўзначальвае заводзкую арганізацыю СПБ, другі зьяўляецца актыўным сябрам прафсаюза.

●

**Тры асноўныя эўрапейскія парлямэнцкія арганізацыі заявілі, што былі агаломшаныя зрывам перамоўнага працэсу паміж уладай і апазыцыяй у Беларусі.**

Пры гэтым прадстаўнікі Парламянцкай асамблеі АБСЭ, Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы і Эўрапарлямэнту паведамілі, што яны заклікалі да правядзеньня перамоваў паміж уладамі, апазыцыяй і няўрадавымі арганізацыямі, пачатак якім быў пакладзены падчас "круглага стала", што прайшоў 3 сакавіка ў Менску. Як лічаць прадстаўнікі міжнародных арганізацый, "падобныя сустрэчы павінны працягвацца, і іх мэтамі павінны быць перагляд Выбарчага кодэкса, прадастаўленьне плюралістычнага доступу да СМІ і вызначэньне адэкватнай ролі і паўнамоцтваў парлямэнту".

●

**3 сакавіка завяршыла работу нацыянальная канфэрэнцыя "Фармаваньне інфармацыйна-аналітычнай інфраструктуры прыватнага прадпрымальніцтва ў Рэспубліцы Беларусі".**

Арганізавалі яе Беларускі саюз прадпрымальнікаў і наймальнікаў і Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў пры падтрымцы Цэнтра міжнароднага прыватнага прадпрымальніцтва (Вашынгтон). Асноўныя высновы канфэрэнцыі сфармуляваў дырэктар НІСЭПД Алег Манаеў. Паводле яго слоў, у краіне неабходна вырашыць сур'ёзную супярэчнасьць: з аднаго боку, у грамадзтве стаўленьне да рынкавай эканомікі і прыватнага прадпрымальніцтва мяняецца да лепшага, з другога – дзяржаўная палітыка ў гэтых кірунках у апошнія гады пагаршаецца. "Ня варта чакаць, – адзначыў Манаеў, – што дзяржава пераасэнсуе сваю палітыку. Важна, каб грамадзтва пачало самаарганізоўвацца". Ён падкрэсьліў, што свабоднае прадпрымальніцтва немагчымае без свабоды ў краіне.

●

**Праваахоўчыя органы Крычава вядуць сьледства па факце здарэньня, якое адбылося ў горадзе 3 сакавіка.**

Як паведаміў кіраўнік Крычаўскага інфармацыйнага цэнтра Андрэй Кузьмін, у пятніцу вечарам невядомыя асобы зрабілі стрэл з агнястрэльнай зброі па акну пад'езда жылога дома №16 па Камсамольскім праспэкце. Гэтае здарэньне, даволі звычайнае для цяперашняга часу, цікавае тым, што менавіта ў гэтым пад'езьдзе жыве старшыня Крычаўскага міжраённага камітэта дзяржаўнага кантролю і ягоны сын, які працуе сьледчым у пракуратуры.

Раніцай 4 сакавіка прастрэленая рама была пагружана на міліцэйскі УАЗ і накіраваная на экспэртызу. Зь якой мэтай стралялі невядомыя, ці зьвязана гэта зь дзейнасьцю міжраённага камітэта дзяржкантролю і ці знаходзіўся яго старшыня ў гэты момант дома – на гэтыя ды іншыя пытаньні трэба адказаць сьледству. Пакуль жа ўсе спробы журналістаў атрымаць нейкую афіцыйную інфармацыю па гэтай справе застаюцца безпасьпяховымі.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

